Латушкін А.М. Прыватныя архівы землеўладальнікаў Рэчы Паспалітай: агляд польскай гістарыяграфіі / А.М. Латушкін // Российские и славянские исследования : науч. сб. Вып. 7 / редкол. : А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск : БГУ, 2012. С. 229-240.

**А. М. Латушкін**

# ПРЫВАТНЫЯ АРХІВЫ ЗЕМЛЕЎЛАДАЛЬНІКАЎ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ: АГЛЯД ПОЛЬСКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ

Дакументальныя зборы, створаныя асобай, сям'ёй, родам, згодна з падыходамі сучаснага айчыннага архівазнаўства, адносяцца да архіваў асабістага паходжання або прыватных архіваў. У параўнанні з архівамі дзяржаўных органаў або вытворчых, грамадскіх арганізаваных структур яны ўяўляюць сабой каштоўнейшы комплекс гістарычных крыніц, безальтэрнатыўны іншым. На старонках дакументаў прыватнага архіва адлюстроўваюцца бакі жыцця, рысы характару асобы, якія не ўласцівыя афіцыйнай дакументацыі. Больш таго, архівы, што фарміруюцца не адным пакаленнем стваральнікаў, даюць магчымасць даследчыку назіраць такую важнейшую ў гісторыі чалавецтва з'яву, як сям'я і род, прасачыць іх ролю ў развіцці грамадства. Уяўляючы сабой форму ўсвядомленага мэтанакіраванага зберажэння дакументальнай памяці роду, такія зборы выступаюць унікальным феноменам чалавечай культуры, часткай сацыяльнай памяці канкрэтнага грамадства.

Перыяды Вялікага Княства Літоўскага (далей — ВКЛ) і Рэчы Паспалітай у гісторыі Беларусі былі найбольш спрыяльнымі для фарміравання архіваў вышэйадзначанага тыпу, і, у прыватнасці, родавых архіваў землеўласнікаў пры іх цэнтральных маёнтках, рэзідэнцыях, родавых гнёздах (згодна з традыцыямі савецкага архівазнаўства — прыватнаўласніцкіх архіваў, па-руску — «частновладельческих»). Існаванне прыватнай уласнасці на зямлю, спадчыннага права на яе і на прыналежнасць да вышэйшага саслоўя, дастатковая стабільнасць дзяржаўнага ладу, высокая прававая культура, кланавасць уладных структур — гэта тыя важнейшыя фактары, што вымушалі прывілеяваныя станы імкнуцца да зберажэння дакументальных пацвярджэнняў на сваю маёмасць і сацыяльныя правы, сведчанняў дзяржаўных заслуг прадстаўнікоў роду. Немалаважнай мэтай было таксама выхаванне ў новага пакалення гонару за сваё паходжанне, за славутых продкаў, фарміраванне гістарычнай памяці роду.

Ва ўказаны перыяд прадстаўнікамі землеўладальніцкага саслоўя былі створаны сотні архіваў асабістага паходжання, у тым ліку дзясяткі родавых архіваў. Буйнейшыя з іх, што дайшлі да нашага часу і маюць дачыненне да Беларусі — гэта архіў Нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў, архіў Сапег з Дзярэчына, архіў Хадкевічаў з Млынава, архіў князёў Сангушак з Славуты, архіў Чартарыйскіх з Сянявы і інш. Шматлікія войны, змены дзяржаўнай прыналежнасці, сацыяльныя катаклізмы сталі прычынай перамяшчэння большай часткі азначаных збораў за межы Беларусі, прывялі да беззваротных страт дакументаў і цэлых архіваў (напрыклад, архіў роду Пацаў). На цяперашні час у складзе Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь захоўваецца ўсяго 16 фондаў асабістага паходжання... Вялікая культурная і навуковая каштоўнасць збораў дадзенага тыпу вымушае да акумуляцыі звестак аб іх гісторыі, сучасным стане і месцазнаходжанні, а таксама да тэарэтычнага асэнсавання дадзенай з'явы ў межах архівазнаўства.

Архівы асабістага паходжання пануючага саслоўя ВКЛ і Рэчы Паспалітай з'яўляюцца аб'ектам увагі даследчыкаў адразу некалькіх краін, пераважна спадкаемцаў указанага дзяржаўнага ўтварэння — Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы. Пэўныя аспекты тэмы разглядаліся ў расійскай гістарыяграфіі. Аднак параўнальна больш сістэматычна і грунтоўна праблема распрацоўвалася ў гістарычнай навуцы і архівазнаўстве Польшчы (пад агульнай назвай «прыватныя

**Латушкин Андрей Николаевич** — доцент кафедры источниковедения Белорусского государственного университета, кандидат исторических наук

архівы», польск. — archiwa prywatne). Дадзены артыкул — спроба абагульнення і сістэматызацыі накопленых гэтай краінай ведаў у азначанай галіне.

Польскую гістарыяграфію тэмы можна падзяліць на наступныя перыяды: 1) XIX — пачатак XX ст.; 2) міжваенны перыяд (1921—1939 гг.); 3) перыяд Польскай народай рэспублікі (другая палова 1940-х — канец 1980-х гг.); 4) перыяд канца 1980-х — 2010 г.

**XIX — пачатак XX ст.** характарызуецца як перыяд першых спроб азнаямлення навуковай грамадскасці з такім тыпам дакументальных збораў, як прыватны архіў таго або іншага роду. Рознымі шляхамі (дазвол на прамы доступ да архіва з навуковымі мэтамі, выдача актаў у часовае карыстанне, праца на пасадзе архівіста, набыццё дакументаў) даследчыкі атрымліваюць уяўленне пра склад і каштоўнасць архіваў (І. Анацэвіч, Ю. Нямцэвіч, Я. Лелявель, А. Чартарыйскі, І. Даніловіч, Т. Дзялынскі, М. Маліноўскі і інш. і архіў Радзівілаў з Нясвіжа). Першапачаткова вынікі іх працы знаходзілі выйсце ў археаграфічнай форме. Ужо ў 20—30-я гг. XIX ст. у навуковы зварот уводзяцца першыя дакументы па гісторыі ВКЛ, запазычаныя з прыватных збораў былой кіруючай эліты гэтай дзяржавы. Гэта, напрыклад, публікацыя 13 дакументаў, пераважна звязаных з дзейнасцю Жыгімонта Аўгуста, Барбары Радзівіл, Мікалая Радзівіла «Рудога», Мікалая Радзівіла «Чорнага» са збораў графа Т. Дзялынскага ў Курніку [23]; публікацыя М. Балінскім крыніц аб жыцці і дзейнасці Барбары Радзівіл [8] і інш. Аднак паступова з’яўляюцца і даследаванні ў форме як артыкулаў, так і манаграфій, якія былі заснаваны на матэрыялах родавых архіваў, напрыклад працы Эдварда Катлубая, Уладзіслава Сыракомлі, Мікалая Маліноўскага і інш. [35; 36; 39; 71; 72]. У другой палове XIX ст. археаграфічная дзейнасць у азначанай сферы набывае больш аб’ёмныя формы. Публікуюцца цэлыя зборнікі, складзеныя пераважна ці выключна з дакументаў прыватных архіваў, якія павінны былі заявіць аб багацці гэтых збораў, умацаваць аўтарытэт іх уладальнікаў і, магчыма, стаць альтэрнатыўнай крыніцай для патрыятычна настроеных гісторыкаў у палеміцы з носьбітамі афіцыйных поглядаў расійскай улады на гісторыю «Заходняй Русі» (архіў Радзівілаў [5; 34], архіў Сапег [6]).

З апошняй чвэрці XIX ст. даследаванні тэмы ўпершыню набываюць архівазнаўчыя рысы: архівы пачынаюць разглядацца не толькі як рэсурс гістарычнай навукі, але і як самастойны аб’ект даследавання. Робяцца спробы падрыхтоўкі абагульняючых статыстычных даведнікаў па архіўных і бібліятэчных зборах на тэрыторыі Польшчы і заходніх губерній Расійскай імперыі [61]. Друкуюцца каталогі асобных архіваў (архіў Сангушкаў у Славуце [25]). У пачатку XX ст. выходзяць першыя артыкулы-справаздачы аўтарытэтных даследчыкаў, пераважна прафесійна звязаных з архіўнай, бібліятэчнай ці музейнай сферай, аб выніках працы ў прыватных архівах, аб іх гісторыі, складзе, навуковай і культурнай каштоўнасці, значэнні для грамадства [57; 15]. У сваёй археаграфічнай дзейнасці даследчыкі пачынаюць арыентавацца на выданне дакументаў агульнадзяржаўнага значэння, тых крыніц, што мелі значэнне для асвятлення гісторыі ўсёй дзяржавы (праект Ст. Пташыцкага па выданні актаў уній ВКЛ і Польшчы, попіса войска ВКЛ 1567 г., невядомага варыянта «Хронікі» М. Стрыйкоўскага з архіва Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў).

Вынікам дадзенага перыяду ў распрацоўцы тэмы стала фарміраванне ў свядомасці навуковай грамадскасці трывалага пераканання аб выключнай важнасці прыватных архіваў для гістарычных даследаванняў. Ва ўмовах, калі буйнейшыя комплексы афіцыйных дакументаў устаноў Рэчы Паспалітай аказаліся вывезенымі краінамі-заваёўнікамі (метрыка ВКЛ, канфесійныя архівы) або былі сканцэнтраванымі ў мясцовых дэпазітарыях, фактычна зачыненых для даследчыкаў (актавыя кнігі судовых устаноў, магістратаў), прыватныя зборы сталі ледзь не адзінай магчымай базай для развіцця гістарычнай навукі ў гэтым рэгіёне. Акрамя таго, паколькі высветлілася, што ў складзе многіх прыватных архіваў адкладаліся дакументы не толькі родавага, але і агульнадзяржаўнага значэння, то як іх ўладальнікі, так і грамадства пачынаюць усведамляць іх асаблівую, агульнанацыянальную «публічную» вартасць.

**Міжваенны перыяд (1921—1939 гг.).** Дадзены перыяд адзначыўся першымі спробамі пастаноўкі праблемы прыватных архіваў землеўладальнікаў на навуковым узроўні, пачаткам яе распрацоўкі з архівазнаўчых пазіцый, першымі спробамі выхаду з эмпірычнага на тэарэтычны ўзровень асэнсавання праблемы. У гэты час ствараецца польская дзяржаўная архіўная служба, фарміруецца сетка дзяржаўных архіваў, вядзецца актыўная праца па фарміраванні дзяржаўнага архіўнага фонду, пошуку, зборы і захаванні архіўнай спадчыны. Прыватныя архівы таксама трапляюць у поле ўвагі і зацікаўленняў дзяржаўных структур. Апошнім даецца дырэктыўная ўстаноўка браць пад нагляд і аказваць усю магчымую дапамогу ўладальнікам прыватных збораў у выпадку іх звароту за ёй (дэкрэт ад 7 лютага 1919 г., артыкул 17). Акрамя таго, пачынаюць функцыянаваць нацыянальныя навукова-даследчыя і адукацыйныя цэнтры, што стварае ўмовы для сістэматычнага развіцця як гістарычнай навукі, так і навукі аб архівах. Асноўнай пляцоўкай для публікацыі вынікаў архівазнаўчых даследаванняў, у тым ліку прыватных архіваў з гэтага часу і на многія дзесяцігоддзі наперад, становіцца афіцыйнае перыядычнае выданне архіўнай галіны — часопіс Archeion.

У дадзены перыяд кірункі вывучэння тэмы, якія толькі праявіліся ў папярэдні час, аформіліся выразна: 1) статыстычны (збор і сістэматызацыя звестак аб існуючых зборах), 2) археаграфічны (навуковая публікацыя дакументаў архіваў). Разам з тым выдзеліліся ў якасці самастойных і пачалі развівацца: 3) гістарычны або т. зв. архівазнаўчы (гісторыя канкрэтных збораў або іх складаючых частак), 4) тэарэтычны (пытанні вызначэння найбольш характэрных прыкмет дадзенага тыпу збораў і дэфініцыі з'явы, фактараў, што ўплываюць на іх фарміраванне, заканамернасцяў развіцця, прынцыпаў фондаўтварэння, распрацоўка тэрміналогіі), 5) метадычны (прыёмы практычнай апрацоўкі збораў — фандзіравання, унутранай арганізацыі фондаў, апісання і інш.); 6) крыніцазнаўчы (характарыстыка крыніцазнаўчай вартасці асобных відаў дакументаў са складу прыватных архіваў). Да прац статыстычнага характару, што ставілі мэту акумуляцыі звестак аб існуючых на тэрыторыі Польшчы, а таксама заходніх Беларусі і Украіны зборах, у тым ліку архіўных, адносяцца даследаванні Эдварда Хвалевіка [21] і Караля Бучака [18; 19]. Ім удалося сфарміраваць дастаткова поўны спіс прыватных архіваў па стану на канец 1920-х гг., на навуковым узроўні ахарактарызаваць важнейшыя рысы кожнага аб'екта. Праца К. Бучака грунтавалася на анкетаванні, структура анкеты ўлічвала пытанні месцазнаходжання, статусу збора, складу, арганізацыі дакументаў, умоваў захоўвання, доступу і інш.

Першую ў гістарыяграфіі спробу пастаноўкі праблемы прыватных архіваў на навуковым узроўні зрабіла Ганна Палячкоўна, чым запачаткавала развіццё тэарэтычнага і метадычнага напрамкаў развіцця тэмы [54]. Аўтар узняла пытанне фармулёўкі дыфініцыі такой з'явы, як прыватны архіў магнацкай сям'і, увяла ва ўжытак выраз «панскі архіў» (польск. — archiwum pański); разглядала розніцу паміж паняццямі прыватныя «калекцыя», «збор» і «архіў» — атаясамлівала іх; прапанавала методыку апрацоўкі фондаў магнацкіх архіваў, якую грунтавала на прыкмеце сваяцкіх сувязяў стваральнікаў архіва.

На высокім навуковым узроўні ў дадзены перыяд развіваўся гістарычны напрамак даследаванняў, што тлумачыцца наяўнасцю напрацовак, накопленых у папярэдні час. Спецыяльнаму вывучэнню была падвергнута гісторыя архіваў такіх родаў, як Радзівілы і Чартарыйскія. Першым свае працы прысвяцілі даследчыкі Ст. Пташыцкі, Т. Вежбоўскі, Ст. Кутжэба, Ул. Семковіч, Я. Якубоўскі [58, s. 212—213, 226—227; 38, s. 447; 82, s. 227—246; 28; 37, s. XVII—XXVII]. Найбольш грунтоўнымі былі даследаванні трох апошніх аўтараў аб комплексе дзяржаўных актаў ВКЛ у складзе архіваў Радзівілаў. Да сярэдзіны 1990-х гг. яны з'яўляліся асноўнымі ў гістарыяграфіі па дадзеным пытанні, а па асобных пазіцыях засталіся непераўзыдзенымі. Праца К. Бучака аб архівах Чартарыйскіх і Сяняўскіх стала першай і да нядаўняга часу адзінай у гістарыяграфіі апублікаванай манаграфіяй, прысвечанай архівам асобнага роду [20]. Гістарычныя аспекты ўнутранай арганізацыі прыватных архіваў, а таксама магчымасці

рэканструкцыі іх складу на аснове захаваных інструкцый разглядаліся К. Тышкоўскім. Яго працу можна аднесці да гістарыяграфіі абодвух вышэйпазначаных архіваў — як Радзівілаў, так і Чартарыйскіх [80]. Малыя формы публікацыі ў гэты перыяд асвяцілі гісторыю архіва Тарноўскіх (малодшай лініі) у Дзікове пад Сандамірам за перыяд ад 1522 г. да пач. Другой сусветнай вайны [41], архіва Панятоўскіх у Яблонне [40].

Археаграфічны кірунак распрацоўкі праблемы быў азнаменаваны грунтоўнай публікацыяй найкаштоўнейшага комплексу крыніц, што паходзілі са складу аднаго з прыватных архіваў (варшаўскага архіва Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў) — 27 актаў уній ВКЛ і Польшчы, якую зрабілі Ст. Кутжэба і Ул. Семковіч [37]. Указаную працу часткова можна аднесці яшчэ да аднаго кірунку ў вывучэнні тэмы — крыніцазнаўчага — даследаванняў, якія раскрываюць вартасць асобных відаў дакументаў са складу прыватных архіваў для вывучэння гісторыі, у дадзеным выпадку — актаў уній. Пэўныя крыніцазнаўчыя рысы мае і ўжо згаданы артыкул Т. Манькоўскага аб архіве ў Яблонне, у складзе якога знаходзіліся і дакументы роду Панятоўскіх, у тым ліку — апошняга манарха Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста [40]. Больш выразна крыніцазнаўчы кірунак афармляецца ў наступны перыяд.

**Перыяд Польскай народнай рэспублікі (другая палова 1940-х — канец 1980-х гг.).** У першыя пасляваенныя гады ў выніку змен грамадска-палітычнага ладу Польшчы сфера фарміравання прыватных архіваў і сам аб’ект перажываюць кардынальныя і беззваротныя змены. Сельскагаспадарчая рэформа, распачатая дэкрэтам Камітэта нацыянальнага вызвалення ад 6 верасня 1944 г., прывяла да ліквідацыі самой асновы, на якой маглі паўстаць архіўныя зборы такога тыпу, — буйной прыватнай спадчыннай зямельнай уласнасці, а таксама да адзяржаўлення рухомай маёмасці былых землеўласнікаў. У гэты час шматлікія архіўныя зборы панскіх маёнткаў, арыстакратычных рэзідэнцый патрапілі ў распараджэнне дзяржаўнай архіўнай службы Польшчы. Перад супрацоўнікамі яе ўстаноў востра стала патрэба іх апрацоўкі, пошуку найлепшых шляхоў упарадкавання і апісання. Тут трэба адзначыць, што калі ў папярэдні перыяд даследчыкамі такіх архіваў былі самі іх супрацоўнікі — прыватныя архівісты, гісторыкі, то зараз — пераважна супрацоўнікі дзяржаўных архіваў, на захоўванне ў якія перадаваліся ўказаныя зборы. Буйнейшыя з іх — Галоўны архіў старажытных актаў (далей — ГАСА) і Дзяржаўны архіў у Кракаве. У цэлым можна прызнаць, што вышэйадзначаныя падзеі актывізавалі даследаванні тэмы, стварылі ўмовы для іх сістэматычнасці, аднак вырвалі архівы з натуральнага асяроддзя, фактычна спынілі развіццё.

Найбольш актыўна ў адзначаны перыяд развіваўся тэарэтычны бок даследаванняў. «Дзяржаўныя» архівісты ў працэсе пошуку аптымальных падыходаў да апрацоўкі збораў (перш за ўсё пры вызначэнні фондавай прыналежнасці дакументаў, іх класіфікацыі ўнутры фонду, рэканструкцыі слабазахаваных архіваў), мусілі глыбока аналізаваць гісторыю архіваў і іх стваральнікаў, вывучаць працэс фондаўтварэння і да т. п. Наяўны ў іх распараджэнні багаты і разнастайны эмпірычны матэрыял даваў шырокія магчымасці для параўнання і, адпаведна, выяўлення характэрных асаблівасцяў розных па віду прыватных збораў, распрацоўкі іх тыпалогіі. Найбольшы ўнёсак у распрацоўку тэарэтычных асноў праблемы зрабілі такія спецыялісты, як Пётр Банькоўскі [9], Эўгенія Бранская [17], Казімір Качмарчык [33], Браніслава Спыра [68], Барбара Смаленская і Тэрэза Зялінская [66; 85].

У гэты час даследчыкамі вызначаецца найменне, што акрэслівала зборы дадзенага тыпу. Першапачаткова да прыватных архіваў, сфарміраваных пры родавых цэнтрах (сядзібах, палацах, замках) некалькімі пакаленнямі землеўласнікаў, прымянялася назва «падворскія архівы», польск. — archiwa podworskie, г. зн. архівы, створаныя пры «дварах», маёнтках землеўласнікаў, дакладней — што засталіся пасля (па-) іх нацыяналізацыі. Па прычыне не зусім поўнай адпаведнасці гэтай назвы сутнасці і шматграннасці з’явы ў працэсе дыскутавання ў 1960-я гг. узнікла паняцце «сямейна-маёнткавыя архівы», польск. — rodzinno-majątkowe (увялі Барбара Смаленская і Тэрэза Зялінская [66]). К канцу 1980-х гг. яно было ўспрынята боль-

шасцю навукоўцаў і замацавалася вучэбнай літаратурай [63, s. 111—112]. Аднак канчаткова пытанні тэрміналагічнага кшталту ў гэты перыяд так і не былі вырашаны.

Былі вызначаны некаторыя фактары, якія выступалі прычынай або садзейнічалі стварэнню прыватных збораў. Сярод іх: імкненне да ўзвялічвання гонару, славы асобы, сям'і, роду (асаблівасць культуры «сармацкай эпохі»); захаванне прававых доказаў на маёнткі; забеспячэнне доказаў разліку па дзяржаўных падатках, фундушах, пазыках [33, s. 633]. Былі пазначаны ўмовы, якія ўплывалі на маштабы архіва, яго развіцце: стан маёмасці, тытулы і займаемыя пасады, амбіцыі стваральніка архіва. Прызнавалася, што развіццё архіваў да сямейных і родавых было магчыма пераважна ва ўласнікаў буйной зямельнай уласнасці [83].

Даследчыкі акрэслілі асаблівасці складу і характэрныя рысы дадзенага тыпу архіваў: 1) буйныя зборы такіх родаў, як Радзівілы, Чартарыйскія, Сангушкі, характарызаваліся «як спецыяльныя, у сваім родзе дзяржаўныя архівы, замкнутыя ў коле інтарэсаў вялікага пана, вяльможы і яго світы» (польск. — klientów) [33, s. 642]; 2) маёмасна-прававыя і фінансавыя акты як аснова архіваў; 3) другараднасць («маргінальнасць») у складзе архіва дакументаў, звязаных з дзяржаўнай дзейнасцю архіваўтваральніка [33, s. 633]; 4) колькасная перавага адміністрацыйна-гаспадарчай дакументацыі ў складзе архіваў найбольш заможных сямей і родаў, што было абумоўлена патрэбай выкарыстання шматлікага штату службовых асоб для кіравання разгалінаванай сістэмай маёнткаў, разам з тым вузка абмежаванае ў часе значэнне азначанага віду дакументаў у параўнанні з іншымі відамі [69]; 5) наяўнасць у складзе архіва, апрача спадчыны асобных архіватворцаў, пэўнага масіву дакументаў, што ўяўляюць сабой вынік жыцця і дзейнасці своеасаблівай чалавечай супольнасці, а менавіта — сям'і, роду, як групы кроўных сваякоў рознай ступені блізкасці і пакаленняў, часам больш звязаных прыналежнасцю да аднаго прозвішча і герба, чым блізкасцю крыві; 6) наяўнасць трывалай прывязкі да пэўнай зямельнай уласнасці, маёнтку, «родавага гнязда», што выразна праяўляецца на складзе архіва; 7) у выпадку разгалінаванасці роду фарміраванне самастойных архіваў асобных яго галін у рэзідэнцыях — цэнтрах маёнткаў, якія знаходзяцца ва ўласнасці прадстаўнікоў дадзенай галіны (стварэнне новых сямейных ці родавых архіваў)[85, s. 127—128].

Даследчыкамі рабіліся спробы падзелу архіваў дадзенага тыпу на віды. У аснову гэтага падзелу клаліся якасці стваральнікаў прыватных архіваў: 1) магнацкія архівы (архіўна-бібліятэчныя асяродкі); архівы (архіўна-бібліятэчныя асяродкі) дробнай шляхты [9]; 2) сямейныя буйнамагнацкія, сярэдне- і дробнашляхецкія архівы [17]; 3) «падворскія» архівы (акты ўладальнікаў аднаго ці некалькіх фальваркаў) і магнацкія сямейныя ці родавыя архівы (архівы дзяржаўных і палітычных дзеячаў уладальнікаў буйных латыфундый) [33]; 4) дакументальная спадчына аднаго чалавека (польск. — spuścizna), сямейныя або родавыя архівы (польск. — archiwa rodzinne, rodowe), архіўныя зборы і калекцыі (польск. — zbiory i kolekcje archiwalne) [83].

Як адна з разнавіднасцей прыватных архіваў прывілеяваных саслоўяў, не звязаных выключна з земскімі маёнткамі і асаблівасцямі фарміравання, былі вылучаны архівы «падворскія» і «падворска»-прамысловыя шляхты Сілезіі [68]. Гэта ўнесла пэўныя карэктывы ў тэзіс аб выключнай ролі зямельнай уласнасці як базы для фарміравання сямейнага ці родавага архіва.

У перыяд другой паловы 1940-х — канца 1980-х гг. польская гістарыяграфія значна ўзбагацілася працамі гістарычнага накірунку. Вывучэнню была падвергнута архіўная спадчына многіх родаў, у большасці выпадкаў — упершыню. У гэты час з'явіліся артыкулы, прысвечаныя: архіву Любамірскіх жэшоўскай лініі [47]; жывецкаму архіву Камароўскіх, Веляпольскіх і Габсбургаў [60], архіву бельскай лініі роду Сулкоўскіх гербу Суліма [59]; архівам і зборам магнацкіх родаў Браніцкіх з Вілянова, Астроўскіх з Уязду, Пшэздзецкіх з Варшавы, Радзівілаў, Тарноўскіх з Сухой ля Жыўца, Замойскіх, архівам Плятэраў з Антузова, Любамірскіх з Малой Вёскі, архівам Забелаў, Патоцкіх з Яблонны, Патоцкіх з Ланьцута [66; 67]; архівам Патоцкіх з Кжэшовіц [56]; архіву Слушкаў гербу Астоя са складу архіва Патоцкіх з Росі,

архіву найвышэйшага гетмана ВКЛ Людвіга Канстанцыя Поцея гербу Вага са складу архіваў Патоцкіх з Росі і Радзыня [64; 65]; архіву Хадкевічаў з Млынава ў складзе вавельскага аддзела Дзяржаўнага архіва ў Кракаве [53].

Асобна варта адзначыць даследаванні, што выкананы адносна архіваў Радзівілаў — ардынатаў нясвіжскіх і іншых ліній. Архіўная спадчына гэтага роду захоўваецца адразу ў некалькіх краінах, у тым ліку ў Беларусі. Дадзенае пытанне па прычыне каштоўнасці і аб'ёмнасці часткі радзівілаўскага збора, што аказалася на тэрыторыі Польшчы ў разглядаемы перыяд, даследавалася параўнальна больш грунтоўна. Навуковым дасягненнем перыяду, якое захоўвае значэнне і да нашага часу, стаў артыкул архівісткі ГАСА Т. Зялінскай «Архівы Радзівілаў і іх стваральнікі» як з пункту гледжання асвятлення гісторыі архіва (падрабязна выкладзена гісторыя рода Радзівілаў, прычым усіх яго ліній, асветлена гісторыя і склад архіваў у Нясвіжы, лёс архіваў у Нябораве, Паланэчцы, Прыгодзіцах), так і з пункту гледжання ўнёску ў распрацоўку тэарэтычных аспектаў тэмы прыватных родавых збораў [85]. Гісторыі і апісанню складу архіва была прысвечана манаграфія апошняга архіварыуса Нясвіжскага архіва Радзівілаў Баляслава Таўрагінскага, якая, аднак, засталася ў рукапісе [16].

Крыніцазнаўчы кірунак у разглядаемы перыяд знайшоў сваё развіццё ў артыкулах Галіны Стэбэльскай (класіфікацыя і аналіз маёмасных актаў прыватных архіваў) [69], Тэрэзы Зялінскай (акты на шляхецкую ўласнасць у местах) [88], Багуслава Ратусінскага (дакументы па гісторыі войска ў складзе архіва Тарноўскіх з Дзікова) [62]. Адначасова развіваўся метадычны напрамак распрацоўкі тэмы, прыкладам якога могуць быць артыкулы Эўгеніі Бранскай [17], Ганны Палярчыковай [55], Тэрэзы Зялінскай [83], у тым ліку згаданая вышэй праца гэтай аўтаркі, прысвечаная архівам Радзівілаў, у якой закранаюцца пытанні крытэрыяў фондавай прыналежнасці дакументаў прыватных («падворскіх») архіваў [85]. У гэты час узнік і новы напрамак, які можна акрэсліць як «прыватныя архівы за мяжой» — блізкі па мэтах да такога кірунку папярэдніх перыядаў развіцця гістарыяграфіі тэмы, як «статыстычны» [13; 81; 10—12].

**Перыяд канца 1980-х гг. — 2010 г.** З канца 1980-х гг. у сувязі з дзяржаўна-палітычнымі зменамі ў Польшчы, выхадам яе з шэрагу краін савецкага лагера, дэмакратызацыяй грамадскага жыцця больш самастойна і свабодна пачынае развівацца як сфера гуманітарных навук у цэлым, так і архіўная сфера. У новых умовах актывізуюцца даследаванні тэмы прыватных архіваў, якая ў савецкі перыяд з-за панавання класавага падыходу ў гістарычнай навуцы не магла атрымаць раўназначны статус з іншай праблематыкай. Да абмеркавання запрашаюцца даследчыкі суседніх краін — Беларусі, Украіны, Літвы, Расіі — захавальніц архіўнай спадчыны калісьці адзінай дзяржавы. Ужо ў папярэдні перыяд у Польшчы пачынаюць складвацца два вядучыя цэнтры даследавання праблемы: ГАСА, дзе захоўваецца асноўная маса прыватных збораў арыстакратычных родаў дасавецкага перыяду і кафедра архівістыкі Інстытута гісторыі і архівістыкі Універсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні. Адначасова роля асноўнай «трыбуны» даследчыкаў прыватных архіваў пераходзіць ад часопіса Archeion да выданняў, ініцыяваных указанымі ўстановамі.

Характэрнай рысай дзейнасці ГАСА ў гэтым кірунку з'яўляецца арганізацыя канферэнцый, у тым ліку міжнародных, прысвечаных тэме прыватных архіваў былой Рэчы Паспалітай. Першая з іх была праведзена яшчэ ў 1970 г. [86]. У 1990-я гг. дадзены навуковы форум становіцца рэгулярным, набывае міжнародны характар. Канферэнцыі і іх тэматыка былі наступнымі: 1994 г., Нябораў, архівы і архіўныя дакументы роду Радзівілаў; 1995 г., архівы і архіўныя дакументы роду Патоцкіх гербу Пілява; 1996 г., прыватныя архівы і архіўныя дакументы розных сямей і родаў. Вынікам сталі некалькі тамоў навуковага зборніка серыі Miscellanea Historico-Archivistica, сфарміраваных выключна з матэрыялаў праведзеных канферэнцый [44—46]. Указаныя сустрэчы садзейнічалі таксама больш глыбокаму ўсведамленню навуковай грамадскасцю краін-удзельніц каштоўнасці архіўнай спадчыны прывілеяваных

родаў Рэчы Паспалітай, выпрацоўцы шляхоў узаемадзеяння па яе зберажэнні і выкарыстанні. Адной з форм супрацоўніцтва стаў міжнародны праект па рэканструкцыі архіва Нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў у электроннай форме.

Другім цэнтрам, дзе засяродзілася праца па вывучэнні прыватных архіваў ад сярэдзіны 1980-х гг., стала кафедра архівістыкі Інстытута гісторыі і архівістыкі Універсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні. Ініцыятарам развіцця дадзенага кірунку выступіў прафесар Багдан Рышэўскі, які арганізаваў вучэбны курс, а таксама магістарскі семінар, прысвечаны «сямейна-маёнткавым» архівам. Цікавасць да тэмы праявілася ў падрыхтоўцы значнай колькасці магістарскіх дысертацый, прысвечаных прыватным зборам, агульная колькасць якіх за перыяд з 1988 па 1997 г. склала больш за 40. Важным фактарам, што садзейнічаў развіццю даследаванняў, было стварэнне некалькіх серый спецыялізаваных навуковых зборнікаў, якія давалі магчымасць прадставіць вынікі сваіх прац, канцэнтравалі ў сабе матэрыял па тэме. У 1991 г. пад рэдакцыяй Б. Рышэўскага пачаў выходзіць навуковы зборнік Studia o bibliotekach i zbiorach polskich, які стаў пляцоўкай публікацыі для даследчыкаў прыватных архіваў (да 1997 г. выйшла 7 тамоў) [70].

Вынікам працы Інстытута гісторыі і архівістыкі УМК у Торуні з’яўляецца серыя зборніка матэрыялаў навуковых сесій, прысвечаных розным пытанням выкарыстання інфармацыйных тэхналогій у працы архіваў, — Komputeryzacja archiwów. Некалькі тамоў зборніка змяшчаюць артыкулы, у якіх прыватныя архівы разглядаюцца ў аспекце магчымасці апісання іх гісторыі і складу ў інфармацыйных сістэмах і іншых тэарэтычных і метадычных аспектах, звязаных з прымяненнем камп’ютара пры апрацоўцы фондаў асабістага паходжання.

З 2005 г. намаганнямі вучняў Б. Рышэўскага заснаваны і вадаецца яшчэ адзін зборнік — Archiwa — Kancelarie — Zbiory [3]. У спісе выданняў УМК варта адзначыць і юбілейны зборнік у гонар 60-й гадавіны з дня нараджэння самога Б. Рышэўскага — заснавальніка торуньскай школы па даследаванні прыватных архіваў. Шэраг яго артыкулаў аўтарства вучняў прафесара адлюстроўвае дадзены бок яго дзейнасці [4].

Паказальным вынікам больш чым 20-гадовай дзейнасці торуньскага асяродка архівазнаўчых даследаванняў сталі манаграфіі: Веслава Навасада, прысвечаная шляхецкім архівам Прусіі [48], і Кшыштафа Сыты — магнацкім архівам Рэчы Паспалітай у XVIII ст. [74]

Асаблівасцю зместу прац дадзенага перыяду з’яўляецца дамінаванне пытанняў гістарычнай і крыніцазнаўчай тэматыкі, а таксама значная маса паведамленняў інфарматыўнага характару. У межах гістарычнага напрамку прыярытэтная ўвага ў гэты час надаецца архіўнай спадчыне рода Радзівілаў. Мы не будзем апісваць матэрыялы канферэнцый ГАСА па гэтай тэме, а таксама публікацыі, прысвечаныя архівам Радзівілаў за 1994—2004 гг., — падрабязна польская гістарыяграфія гісторыі Нясвіжскага архіва Радзівілаў за дадзены перыяд асветлена намі ў асобных артыкулах [1; 2]. Варта толькі адзначыць, што даследчыкамі, якія зрабілі важны ўнёсак у распрацоўку «радзівіліяны» ў гэты час, акрамя Тэрэзы Зялінскай, выступілі Рафал Янкоўскі, Вальдэмар Мікульскі, Уладзімір Піўкоўскі, Віялета Урбаняк, Яраслаў Завадзкі. Нягледзячы на пашырэнне групы навукоўцаў, найбольш паслядоўна і комплексна праблема вывучаецца толькі адным з іх — супрацоўнікам ГАСА Р. Янкоўскім. У апошнія гады з’явіліся яго новыя працы, прысвечаныя крыніцазнаўчым аспектам тэмы і архівам асобных ліній роду Радзівілаў (клецкай лініі) [29; 31]. Разам з тым, на жаль, «радзвіліяна» пакуль што не дачакалася сваёй найбольш аптымальнай для дадзенага аб’екта даследаванняў формы прадстаўлення ведаў — манаграфічнай.

Ранейшыя веды аб архівах Патоцкіх з Яблонны, Ланьцута, Росі і Радзыня, а таксама аб дакументах іншых родаў у архівах Патоцкіх са складу ГАСА ў апошні перыяд былі дапоўнены артыкулам па гісторыі архіва Патоцкіх з Ланьцута [45]. Да спіса прыватных архіваў, якія падвергліся даследаванню, дадаліся: архіў ардынацыі Замойскіх з Звяжынца, архіў Красіцкіх з Лескага замку, архівы Сапег [46]; архіў роду Мышкоўскіх і Веляпольскіх, уладальнікаў

пiньчоўскай ардынацыi [24]; архiў хелмiнскага кашталяна Станiслава Канапацкага [50]; архiвы сям'i Фрэдраў, архiвы клецкай лiнii роду князёў Радзiвiлаў [30; 31]; архiў сандамiрскага ваяводы Яна Тарлы, архiвы жмудзкай шляхты ў 2-й палове XVI ст., архiвы князёў Сангушкаў, архiў князя Рыгора Фёдаравiча Сангушкi ў канцы XVI ст. [73; 75; 76; 77]; архiвы магнацкiх родаў Бранiцкiх герба Грыф, Хадкевiчаў герба Касьцеша i Грыф з мячамi, Чартарыйскiх герба лiтоўская Пагоня, Любамiрскiх герба Шрэнява, Агiнскiх герба Агiнец, Патоцкiх герба Пiлява, Ржэвускiх герба Крыўда, Сангушак герба лiтоўская Пагоня, Сапег герба Лiс, Вiшнявецкiх герба Карыбут, Тарноўскiх герба Лялiва, Замойскiх герба Элiта [74]; архiў сям'i Крушынскiх з Нарвы [49]. Тут варта згадаць i працы, што маюць характар агляду ўсiх фондаў i груп дакументаў дадзенага тыпу ў той або iншай архiўнай установе Польшчы або ў складзе асобных фондаў архiўных устаноў: архiвы Радзiвiлаў у польскiх сховiшчах, дакументы розных родаў у складзе Варшаўскага архiва Радзiвiлаў ГАСА [44; 84], родавыя архiвы ў ГАСА [45].

Была даследавана дакументальная спадчына родаў: Гарнастаеў XVI—XVII стст. [42], Iллiнiчаў, Палубiнскiх, Бранiцкiх герба Грыф, Бранiцкiх герба Корчак, князёў Варанецкiх з Гушлева, Любамiрскiх з Дубна [46], Сапегаў у складзе архiва так званага Варшаўскага архiва Радзiвiлаў ГАСА [22].

Своеасаблiвы «прарыў» у разглядаемы перыяд можна адзначыць у такiм кiрунку даследаванняў, як дакументы прыватных архiваў у замежных сховiшчах. Адбыўся ён, аднак, пераважна за кошт замежных даследчыкаў, што з'яўляецца характэрнай рысай дадзенага кiрунку ў параўнаннi з папярэднiм, калi пошукi ў iншых краiнах здзяйснялiся пераважна самiмi палякамi. З'явiлiся артыкулы аб дакументах прыватных архiваў у фондах цэнтральных дзяржаўных гiстарычных архiваў у Кiеве i Львове, Расiйскага дзяржаўнага архiва старажытных актаў, Дзяржаўнага гiстарычнага архiва Лiтвы i iншых зборах гэтай дзяржавы, Нацыянальнага гiстарычнага архiва Беларусi, а менавiта: архiвы Патоцкiх, у тым лiку тульчынскай лiнii (Л. Гiсцова, Д. Шовковый, Н. Царова) [44]; архiвы родаў Ланцкаронскiх, Любамiрскiх, Дзедушыцкiх (Д. Пельц); архiвы Радзiвiлаў (А. Галубовiч, Л. Гiсцова, I. Антоненка) [45]; усе фонды дадзенага тыпу ў той або iншай архiўнай установе (Л. Гiсцова, Л. Сухiх) [46].

Крынiцазнаўчы кiрунак даследаванняў дапоўнiўся аналiзам наступных вiдаў i груп дакументаў: дакументы дзяржаўнага значэння [43]; дзённiкi [29]; картаграфiчныя матэрыялы [14]; дакументы па гiсторыi польска-маскоўскiх адносiн у XVI ст. [26]; дакументы па гiсторыi нацыянальна-рэлiгiйных адносiн у ВКЛ у XVIIст. [7] у складзе Варшаўскага архiва Радзiвiлаў ГАСА; дакументы дзяржаўнага значэння, або так званыя «публiчныя акты» ў складзе архiваў Замойскiх [89]; тэстаменты [79].

Тэарэтычны i метадычны кiрункi развiвалiся пераважна ў напрамку вырашэння пытанняў апрацоўкi прыватных збораў пры камп'ютарызацыi працы архiва: структура прыватных архiваў, апiсанне дакументаў «сямейна-маёнткавых» архiваў у iнфармацыйных сiстэмах [78; 51; 52]. Аднак больш грунтоўна былi прапрацаваны i некаторыя традыцыйныя пытаннi, напрыклад крытэрыi фондавай прыналежнасцi дакументаў [87].

Паказальным вынiкам дадзенага перыяду стала ўжо згаданая праца Крыштафа Сыты, прысвечаная магнацкiм архiвам Рэчы Паспалiтай у XVIII ст. На падставе вывучэння больш чым 10 прыватных збораў (Чартарыйскiх, Сангушкаў, Патоцкiх i iнш.) аўтар прадставiў дзейнасць магнацкай канцылярыi, працэсаў актаўтварэння, архiвiзацыi дакументаў, асвятлiў пытаннi ўмоў i правiлаў захоўвання архiваў, аб'емы, структуру архiваў, тыпалогiю дакументаў, падыходы да iх апiсання, а таксама гiсторыю i службовы штат асобных збораў. Праца дэманструе ўзровень дасягненняў польскага архiвазнаўства ў сферы прыватных архiваў, выступае ўдалым прыкладам абагульнення накопленага за папярэднi перыяд факталагiчнага матэрыялу, спробай разгляду праблемы ў культуралагiчным святле [74].

Прадстаўленыя вышэй бясспрэчныя дасягненнi польскай гiстарыяграфii трэба разглядаць як частку ўкладу ў распрацоўку праблемы, якая з'яўляецца агульнай для некалькiх

дзяржаў — Украіны, Беларусі, Літвы, дзе таксама маюцца значныя поспехі, зробленыя асабліва ў два апошнія дзесяцігоддзі. Прыярытэтнай задачай навукоўцаў у гэтым сэнсе мусіць выступаць узгадненне тэрміналагічнай базы праблемы (у першую чаргу — вызначэнне агульнага паняцця ў дачыненні да прыватных архіваў прывілеяваных саслоўяў), распрацоўкі тыпалогіі дадзеных збораў.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Латушкін, А. М.* Дзяржаўныя акты Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Нясвіжскага архіва князёў Радзівілаў: стан і кірункі даследавання праблемы / А. М. Латушкін // Мінулае і сучаснасць: архівы ў сістэме гуманітарных ведаў: матэрыялы Міжнар. навук. канф. (Мінск, 20 мая 2009 года) / рэд. кал.: Н. М. Дзятчык [і інш.]. Мінск : БелНДІДАС, 2010. С. 31—37.

2. *Латушкін, А. М.* Нясвіжскі архіў князёў Радзівілаў у XV — першай палове XX ст.: гістарыяграфія і крыніцы / А. М. Латушкін // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3, Гісторыя. Філасофія. Псіхалогія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Права. 2006. № 2. С. 3—9.

3. Archiwa — Kancelarie — Zbiory / red. W. Chorążyczewski, R. Degen, K. Syta. Toruń, 2005. T. 1. Toruń, 2008. T. 2.

4. Archiwistyka i bibliotekaznawstwo. Prace dedykowane Profesorowi Bohdanowi Ryszewskiemu. Warszawa, 1997.

5. Archiwum domu Radziwiłłów: Listy ks. M.K. Radziwiłła Sierotki, Jana Zamoyskiego, Lwa Sapiehy / oprac.: M. Bohusz-Szyszko, A. Sokołowski. Kraków: nakł. księcia Antoniego Raziwiłła, 1885. XXIV, 295 s.

6. Archiwum domu Sapiehów / oprac. A. Prochaska. Lwów: nakład rodziny, 1892. T. 1: Listy z lat 1575—1606. XXXV, 577 s.

7. *Augustyniak, U.* Źródła do badania stosunków wyznaniowych i narodowościowych w Wielkim Księstwie Litewskim w XVII w. w Archiwum Warszawskim Radziwiłłów / U. Augustyniak // Miscellanea historico-archivistica. 1997. T. 7. S. 155—167.

8. *Baliński, M.* Pamiętniki o królowej Barbarze, żonie Zygmunta Augusta: w 2 t. / M. Baliński. Warszawa, 1837. T. 1. 212 s.

9. *Bańkowski, P.* Porządkowanie archiwaliów prywatnych / P. Bańkowski // Archeion, T. 19/20. 1951. S. 194—216.

10. *Bańkowski, P.* Dwa polskie archiwa magnackie w Bibliotece Ukraińskiej Akademii Nauk w Kijowie / P. Bańkowski // Archeion. T. 40. 1964. S. 191—199.

11. *Bańkowski, P.* Polskie archiwa magnackie w centralnym państwowym archiwum historycznym w Kijowie / P. Bańkowski // Archeion. T. 40. 1964. S. 161—189.

12. *Bańkowski, P.* Polskie archiwa osobiste, rodzinne i rodowe znajdujące się w radzieckich zbiorach państwowych / P. Bańkowski // Archeion. T. 47. 1967. S. 131—145.

13. *Baranowski, B.* Materiały do regionu Lódzkiego w Mińsku i Kijowie / B. Baranowski // Rocznik Łódzki. 1959. T. 9. S. 287—289.

14. *Bartoszewicz, H.* Kartografika Radziwiłłowskie w zbiorach Archiwum Głównego Akt Dawnych / H. Bartoszewicz // Miscellanea historico-archivistica. 1997. T. 7. S. 117—126.

15. *Barwiński, E.* Archiwum ks. Radziwiłłów w Nieświeżu. Rys jego historyi i sprawozdanie z poszukiwań / E. Barwiński // Archiwum Komisji Historycznej PAU. T. 11. 1913. S. 1—10.

16. Biblioteka Narodowa, Rękopis 9067: część 1. Tuhan-Taurogiński B. Geneza powstania Archiwum Radziwiłłów oraz wartość zbiorów dla nauki polskiej. Warszawa, 1955 r.; cz ęść 2. Tuhan-Taurogiński B. Z dziejów Archiwum Radziwiłłów oraz wartość zbiorów dla nauki polskiej. Warszawa, 1969.

17. *Brańska, E.* Porządkowanie archiwów podworskich (projekt instrukcji i schemat układu akt) / E. Brańska // Archeion. T. 22. 1953. S. 30—37.

18. *Buczek, K.* Archiwa polskie / K. Buczek // Nauka Polska. Materyały do spisu instytucyj i towarzystw naukowych w Polsce / Kasa im. Mianowskiego instyt. popier. pol. twórczoś. nauk. Warszawa: Druk i Litt. J. Gotty, 1927. T. 7. S. 1—97.

19. *Buczek, K.* Archiwa polskie / K. Buczek // Nauka Polska. Materyały do spisu instytucyj i towarzystw naukowych w Polsce. Suplement do T. 7 / Kasa im. Mianowskiego instyt. popier. pol. twórczoś. nauk. Warszawa: Druk i Litt. J. Gotty, 1930. T. 12. S. 1—85.

20. *Buczek, K.* Z dziejów polskiej archiwistyki prywatnej. Archiwa XX. Czartaryskich / K. Buczek. Kraków, 1938.

21. *Chwalewik, E.* Zbiory polskie. Archiwa, biblioteki, gabinety, galerje, muzea i inne zbiory: w 2 t. / E. Chwalewik. Warszawa: Wyd. J. Mortkowicza, Tow. wyd., 1926—1927. T. 1: A—N. 40 s., T. 2: N—Ż. 559 s.

22. *Czerniszewski, P.* Papiery Sapiehów z Działu X Archiwum Warszawskiego Radziwiłłów XVI—XIX w. w zbiorach Archiwum Głównego Akt Dawnych — historia zbioru, zawartość, metoda porządkowania / P. Czerniszewski // Archiwista Polski. ą 1(13). 1999. S. 66—70.

23. Dziennik Warszawski. 1827. №№ 20—28, 30, 31.

24. *Garbacz, W.* Historia archiwum rodowego Myszkowskich / W. Garbacz // Studia o bibliotekach i zbiorach polskich / Pod red. B. Ryszewskiego. Toruń, T. 7. 1997. S. 49—66.

25. *Gorczak, B.* Katalog rękopisów archiwum XX. Sangószków w Sławucie ułożył i histori tegoż archiwum / B. Gorczak. Sławuta, 1902.

26. *Grala, H.* Źródła do dziejów stosunków polsko-moskiewskich w XVI w. (Nowe znaleziska w Archiwum Warszawskim Radziwiłłów) / H. Grala // Miscellanea historico-archivistica. 1997. T. 7. S. 135—153.

27. *Iwaszkiewicz, J.* Z dziejów wielkiej fortuny / J. Iwaszkiewicz // Biblioteka Warszawska. 1911. T. 4. S. 479—501.

28. *Jakubowski, J.* Archiwum Państwowe W. X. Litewskiego i jego losy / J. Jakubowski // Archeion. T. 9. 1931. S. 1—18.

29. *Jankowski, R.* Diariusze w t. zw. Warszawskim Archiwum Radziwiłłów / R. Jankowski // Archiwa — Kancelarie — Zbiory / red. W. Chorążyczewski [i in.]. Toruń, 2005. T. 1. S. 45—85.

30. *Jankowski, R.* Dzieje archiwów rodziny Fredrów / R. Jankowski // Archiwistyka i bibliotekaznawstwo. Prace dedykowane Profesorowi Bohdanowi Ryszewskiemu. Warszawa, 1997. S. 64—85.

31. *Jankowski, R.* Próba przedstawienia dziejów archiwów Radziwiłłów linii kleckiej z uwzględnieniem klęsk elementarnych jako jednym z czynników kształtowania zasobu / R. Jankowski // Archiwa — Kancelarie — Zbiory / red. W. Chorążyczewski [i in.]. Toruń, 2008. T. 2. S. 131—189.

32. *Jelski, A.* Neuburgskie dobra na Litwie / A. Jelski // Słown. geograf. Król. Polsk. i in. krajów słowiań: w 16 t.; pod red. F. Sulimierskiego [i in.]. Warszawa, 1886. T. 7. S. 7—8.

33. *Kaczmarczyk, K.* Archiwa rodzinne, ich literatura i porządkowanie / K. Kaczmarczyk // Roczniki Historyczne. R. 23. 1957. S. 633—645.

34. Korespondencya księcia Karola Stanisława Radziwiłła wojewody wileńskiego «Panie Kochanku»: 1744—1790 (z arch. w Wierkach) / Wyd.: Cz. Jankowski. Kraków: G. Gebethner, 1898. 315 s.

35. *Kotłubaj, E.* Galerja Nieświeżska portretów Radziwiłłowskich / E. Kotłubaj. Wilno, 1857. 602 s.

36. *Kotlubaj, E.* Zycie Janusza Radziwilla / E. Kotlubaj. Wilno, Witebsk, 1859. 345 s.

37. *Kutrzeba, St.* Akta unii Polski z Litwą 1385—1791 / St. Kutrzeba, Wł. Semkowicz. Kraków: Druk. UJ, 1932. 570 s.

38. *Kutrzeba, St.* Historia źródeł dawnego prawa polskiego / St. Kutrzeba. Lwów; Warszawa; Kraków, 1926, T. II, Cz. II.

39. *Malinowski, M.* Losy fortuny Radziwiłłowskiej (ustęp od r. 1764 do 1804) / M. Malinowski // Kółko domowe. 1866. T. 6. S. 19—23.

40. *Mańkowski, T.* Archiwum w Jabłonnie / T. Mańkowski // Archeion. T. 4. 1928. S. 91—97.

41. *Marczak, M.* Zbiory archiwalne Tarnowskich w Dzikowie / M. Marczak // Archeion. T. 16. 1938—1939. S. 21—38.

42. *Mikulski, W.* Dokumenty Hornostajów i innych rodzin rusko-litewskich z XVI—XVII w. w zespole Archiwum Potockich z Radzynia / W. Mikulski // Miscellanea historico-archivistica. 1997. T. 8. S. 133—141.

43. *Mikulski, W.* Dokumenty z archiwum WXL w archiwum warszawskim Radziwiłłów / W. Mikulski // Miscellanea historico-archivistica. 1997. T. 7. S. 71—83.

44. Miscellanea historico-archivistica / Naczel. dyrekc. arch. państw., Arch. głów. akt dawn; komit. red.: F. Ramotowska [i in.]. 1997. T. 7.

45. Miscellanea historico-archivistica / Naczel. dyrekc. arch. państw., Arch. głów. akt dawn; komit. red.: F. Ramotowska [i in.]. 1997. T. 8.

46. Miscellanea historico-archivistica / Naczel. dyrekc. arch. państw., Arch. głów. akt dawn; komit. red.: F. Ramotowska [i in.]. 1998. Ň. 9.

47. *Myćka, A.* Archiwum ks. Lubomirskich linii rzeszowskiej z Rzeszowa i Rozwadowa / A. Myćka // Archeion. T. 59. 1973. S. 87—109.

48. *Nowosad, W.* Archiwa szlachty Prus Królewskich / W. Nowosad. Toruń, 2005.

49. *Nowosad, W.* Nagana szlachectwa jako czynnik archiwotwórczy na przykładzie archiwum rodziny Kruszyńskich z Narwy / W. Nowosad // Archiwa — Kancelarie — Zbiory / red. W. Chorążyczewski [i in.]. Toruń, 2008. T. 2. S. 191—218.

50. *Nowosad, W.* Stanisław Konopacki i sumariusz jego archiwum / W. Nowosad // Archiwistyka i bibliotekaznawstwo. Prace dedykowane Profesorowi Bohdanowi Ryszewskiemu. Warszawa, 1997. S. 86—97.

51. *Nowosad, W.* Problemy opisu archiwów rodzinno-majątkowych w skomputeryzowanych systemach informacyjnych / W. Nowosad, K. Syta // Komputeryzacja archiwów: Materiały sympozjum, Toruń, 5—6 grud. 1997 r. / pod red. H. Robótki. Toruń, 1998. T. 5: Problemy opisu archiwaliów w skomputeryzowanych archiwalnych systemach informacyjnych. S. 33—46.

52. *Nowosad, W.* Problemy tworzenia haseł wzorcowych dla opisu archiwów rodzinno-maj tkowych / W. Nowosad, K. Syta // Komputeryzacja archiwów: Materiały sympozjum, Toruń, 11—12 grud. 1998 r. / pod red. H. Robótki. Toruń, 1998. T. 6: Problemy opracowania kartoteki haseł wzorcowych dla opisów archiwaliów w skomputeryzowanych systemach informacyjnych. S. 41—49.

53. *Pełeszowa, S.* Archiwum Chodkiewiczów z Młynowa (1499—1932) / S. Pełeszowa // Archełon. T. 69. 1979. S. 115—128.

54. *Polaczkówna, H.* Uwagi o porz ądkowaniu prywatnych archiwów familijnych / H. Polaczkówna // Archeion. T. 16. 1937—1938. S. 1—20.

55. *Polarczykowa, A.* Dokumenty pergaminowe, druki, ikonografia, kartografia w archiwach prywatnych — ich ewidencja i przechowywanie / A. Polarczykowa // Archeion. T. 59. 1973. S. 15—30.

56. *Polarczykowa, A.* Dzieje Archiwum Potockich z Krzeszowic / A. Polarczykowa // Archeion. T. 79. 1985. S. 93—117.

57. *Ptaszycki, S.* Gdzie się przechowywały i przechowuj obecnie akta unii Litwy z Polską? / S. Ptaszycki // Kwartalnik historyczny. 1902. R. 16. Zesz. 1. S. 589—591.

58. *Ptaszycki, S.* Encyklopedia nauk pomocniczych historji i literatuty polskiej / S. Ptaszycki. Lublin, 1922. Cz. 1. Wyd. 2.

59. *Rączka, Z.* Bielska linia Sułkowskich i jej archiwum / Z. Rączka // Archeion. T. 77. 1984. S. 135—153.

60. *Rączka, Z.* Żywieckie archiwum Komorowskich, Wielopolskich i Habsburgów i jego losy / Z. Rączka // Archeion. T. 47. 1967. S. 107—130.

61. *Radziszewski, F.* Wiadomość historyko-statystyczna o znakomitszych bibliotekach i archiwach publicznych i prywatnych / F. Radziszewski. Kraków: Druk. Wł. L. Anczyca i Sp., 1875. 128 s.

62. *Ratusiński, B.* Materiały do dziejów wojskowości w archiwum Dzikowskim Tarnowskich / B. Ratusiński // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. 1962. T. 8. S. 281—286.

63. *Robótka H.* Archiwistyka / H. Robótka, B. Ryszewski, A. Tomczak. Warszawa: PWN, 1989.

64. *Sadkowska, Cz.* Genealogia rodu Słuszków i ich archiwum (szkic genealogiczno-archiwalny) / Cz. Sadkowska // Archeion. T. 52. 1969. S. 57—81.

65. *Sadkowska, Cz.* Ludwik Konstanty Pociej hetman wielki Wielkiego Księ stwa Litewskiego i «regestr» jego archiwum roku 1720 / Cz. Sadkowska // Archeion. T. 59. 1973. S. 67—85.

66. *Smoleńska, B.* Archiwalia prywatne w Archiwum Głównym Akt Dawnych w Warszawie (Archiwa magnackie) / B. Smoleńska, T. Zielińska // Archeion. T. 38. 1962. S. 167—197.

67. *Smoleńska, B.* Archiwalia prywatne w Archiwum Głównym Akt Dawnych w Warszawie (Drobne i szcz tkowe zespoły i zbiory) / B. Smoleńska, T. Zielińska // Archeion. T. 39. 1963. S. 87—108.

68. *Spyra, B.* Spiecyfika śląskich archiwów podworsko-przemysłowych / B. Spyra // Archeion. T. 62. 1975. S. 105—112.

69. *Stebelska, H.* Typy akt majątkowych epoki feudalnej w archiwach podworskich / H. Stebelska // Archeion. T. 26. 1956. S. 152—171.

70. Studia o bibliotekach i zbiorach polskich / Pod red. B. Ryszewskiego. Toruń, 1991—1997. T. 1—7.

71. *Syrokomla, W.* W drówki po moich niegdyś okolicach: wspomnienia, studia historyczne i obyczajowe / W. Syrokomla. Wilno: J. Zawadzki, 1853. 248 s.

72. *Syrokomla, W.* Zamek w Nieświeżu / W. Syrokomla // Tygodnik ilustrowany. 1862. T. 5. № 143. S. 246—249.

73. *Syta, K.* Archiwa Jana Tarły, wojewody sandomierskiego, w świetle rewizji z roku 1761 / K. Syta // Studia o bibliotekach i zbiorach polskich / Pod red. B. Ryszewskiego. Toruń, 1996. T. 6. S. 31—51.

74. *Syta, K.* Archiwa magnackie w XVIII wieku. Studium kultury kancelaryjno-archiwalnej / K. Syta. Toruń, 2010. 312 s.

75. *Syta, K.* Archiwa szlachty żmudzkiej w II połowie XVI wieku / K. Syta // Studia o bibliotekach i zbiorach polskich / Pod red. B. Ryszewskiego. Toruń, 1997. T. 7. S. 29—47.

76. *Syta, K.* Archiwum kniazia Andrzeja Hrehorowicza Sanguszki kowielskiego z końca XVI w. / K. Syta // Archiwa — Kancelarie — Zbiory / red. W. Chorążyczewski [i in.]. Toruń, 2005. T. 1. S. 29—44.

77. *Syta, K.* Dzieje archiwów książąt Sanguszków / K. Syta // Miscellanea historico-archivistica. 2000. T. 11. S. 97—110.

78. *Syta, K.* Struktura zasobów archiwów prywatnych w XVI—XIX wieku / K. Syta // Komputeryzacja archiwów: Materiały sympozjum, Toruń, 4—5 paźdz. 1996 r. / pod red. H. Robótki. Toruń, 1998. T. 4: Problemy struktury zasobu archiwalnego w perspektywie komputeryzacja archiwów. S. 51—76.

79. *Syta, K.* Testament Marcjana Antoniego Ogińskiego kasztelana mścisławskiego. Przyczynek do dziejów rodziny Ogińskich w Litewskim Historycznym Archiwum Państwowym w Wilnie / K. Syta // Archiwa — Kancelarie — Zbiory / red. W. Chorążyczewski [i in.]. Toruń, 2008. T. 2. S. 219—231.

80. *Tyszkowski, K.* Z dziejów polskiej archiwistyki prywatnej. Instrukcja archiwalna z XVIII w. / K. Tyszkowski // Archeion. T. 13. 1935. S. 71—82.

81. *Wąsowicz, M.* Materiały do dziejów Polski w Centralnych Archiwach Historycznych we Lwowie i Kijowie / M. Wąsowicz // Archeion. T. 33. 1960. S. 99—126.

82. *Wierzbowski T.* Vademecum. Padręcznik dla studiów archiwalnych / T. Wierzbowski, K. Tyszkowski, B.Włodarski. 2-e wyd. Lwów; Warszawa : NP, 1926.

83. *Zielińska T.* Archiwalia prywatne (pojęcie, zakres gromadzenia, metody opracowania) / T. Zielińska // Archeion. T. 51. 1971. S. 71—88.

84. *Zielińska, T.* Archiwa wielkich rodów Rzeczypospolitej dziedzictwem narodów Europy środkowej i wschodniej / T. Zielińska // Archiwista Polski. 1999. № 2 (14). S. 33—40.

85. *Zielińska, T.* Archiwa Radziwiłłów i ich twórcy / T. Zielińska // Archeion. T. 66. 1978. S. 105—130.

86. *Zielinska, T.* Konferencja przedstawicieli archiwów i bibliotek poświęcona zagadnieniom archiwaliów prywatnych / T. Zielińska // Archeion. T. 55. 1971. S. 167—169.

87. *Zielińska, T.* Problemy zespołowości archiwaliów rodzinno-majątkowych / T. Zielińska // Komputeryzacja archiwów: Materiały sympozjum, Toruń, 20—21 paźdz. 1995 r.: w 3 t. / pod red. H. Robótki. Toruń: WAPT, 1997. T. 3: Problemy zespołowości w archiwistyce i praktyce archiwów. S. 57—65.

88. *Zielińska, T.* Przydatność informacyjna archiwów publicznych i prywatnych do badania własności szlacheckiej w miastach królewskich XVIII wieku / T. Zielińska // Archełon. T. 79. 1985. S. 63—92.

89. *Zielińska, T.* Zbiory archiwalne Ordynatów Zamoyskich jako skarbnica dokumentów państwowości polskiej / T. Zielińska // Miscellanea historico-archivistica. 1994. T. 4. S. 173—221.

## РЕЗЮМЕ

В статье рассмотрена польская историография темы, охарактеризовано состояние изученности проблемы. Автор выделяет следующие периоды в развитии историографии вопроса: 1) XIX — начало XX в.; 2) межвоенный период (1921—1939 гг.); 3) период Польской Народной Республики (вторая половина 1940-х — конец 1980-х гг.); 4) конец 1980-х — 2010 г. Делается вывод о наиболее весомом вкладе польского архивоведения в развитие исследований. Автор указывает те вопросы темы, которые требуют скорейшей дальнейшей разработки и согласованных усилий, прежде всего это касается выработки единого определения понятия «частные архивы привилегированных сословий», разработки типологии этих архивов.

## SUMMARY

The article deals with Polish historiography themes, describes the state of knowledge of the problem. The author identifies the following periods of Polish historiography: 1) of the XIX — early XX centuries; 2) the inter-war period (1921—1939); 3) the post-war (Soviet) period (second half of 1940-the end of 1980);4) during the late 1980s — 2010. It is concluded that the most significant contribution to the development of research was made by the Polish archival science. The author points out the issues topics that require further rapid development and concerted efforts country-heiresses of archival heritage of the Grand Duchy and Rzecz Pospolita, above all it concerns the development of a common definition of private archives of the noble estates, the development of the typology of these archives.

Статья поступила в редакцию 21 мая 2011 г.